Цана асобнага нумару 20 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 34. | Вільня, Чацьвер 21 Кастрычніка 1926 г. | Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

**Падпіска:**
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.

**Цана абвестак:**
на 1-ай староны 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у аднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Нашае становішча.

У вапошнія часы Польшча перажывала два крызысы ўраду. Урад Бартлеў дастаў дымісыю, пасьля быў утвораны ўзноў той самы ўрад Бартлеў, які ўзноў пайшоў у дымісыю, і напаследак Пілсудскі, як ваенны міністар, стаў на чале польскага ўраду.

Усім добра ведама, што ў трох папярэдніх урадах быў ваенным міністрам марш. Пілсудскі, што за прэзыдэнта быў выбраны кандыдат, якога выставіў Пілсудскі і што фактычна ўлада папярэдняга ўраду была ў руках комэнданта Пілсудскага; цяпер маем толькі тое, што і адказнасьць за ўсю ўладу пры цяперашнім урадзе перайшла на фактычнага кіраўніка. Што-ж нам даў папярэдні ўрад „маёвай перамены"?

Папярэдні ўрад польскі, як і ўсе яго дзяды і прадзеды займаўся адносна Беларусаў толькі тым, каб як небудзь задушыць беларускі рух, каб зусім зьвесьці із сьвету Беларусаў. Урад Бартлеў хацеў прыслужыцца польскай нацыяналістычнай правіцы, а затым ня толькі ня ўвёў ніякіх палёгкаў для Беларусаў, але яшчэ пастараўся адабраць тое, што ўжо было Беларусамі здабыта. Калі возьмем школьныя справы, дык там знайдзем, што ўрад Бартлеў ніводнай беларускай школы не адчыніў, хаця дэкларацыі на сотні беларускіх школаў ужо былі летась пададзены. Мала гэтага, ўрад Бартлеў пачаў паход проціў акцыі на прыватныя беларускія школы. Істнуючыя летась у Вялейскім і Слонімскім павеце дзьве беларускія школы дагэтуль не функцыянуюць, бо школьныя інспэктары не зацьверджаюць вучыцеля, або проста не даюць ніякага адказу на заявы на школы. Мала таго, урад Бартлеў завёў, сярод іншых перашкодаў на паўстаньне беларускай школы, яшчэ перашкоду ў форме штэмплёвай аплаты ад заяваў на беларускую школу.

Усе фармальнасьці разам із штэмплёвай аплатай стояць 20 зал. 50 гр. ад кожнай заявы. Гэтакім парадкам у сёлетнім школьным годзе ня маем ніводнай навет прыватнай беларускай школы.

Калі перэйдзем далей да зямельнага пытаньня, то тут маем тое самае. Міністар Станевіч—абароньнік паноў, толькі тое рабіў, што даваў „вывяды" ў газэты, што мае прыступіць да комасацыі, мэліёрацыі грунтаў. Аб зямлі для мяйсцовых беларускіх сялянаў на'т і не ўспомнеў. Нічога дзіўнога, што беларускі селянін дагэтуль ані пядзі зямлі не дастаў ад такога міністра. Уся гаспадарская падатковая палітыка ўраду ішла ўвесь час па лініі абароны інтарэсаў вялікіх паноў і капіталістых і ў дадатку яшчэ на некаторую карысьць ахвіцэрам. Гаспадарскае цяжкае палажэньне сялянаў урад мала цікавіла. Урад затое адразу выплаціў ахвіцэрам прыдатак да пэнсыі і зрабіў на 16 міл. дэфіцыту ў бюджэце, якія грошы ў першаю чаргу ляглі цяжкім каменем на плечы працоўных масаў—на плечы сялянства. Аб ніякіх соцыяльных, палітычных і грамадзкіх рэформах ня было на'т гутаркі. Самаўрад ураду Бартлеваму зусім ня быў патрэбны; самадум адміністрацыі астаўся той самы; падаткі ня толькі ня зьменшыліся, але яшчэ падняты на 10%.

Новы ўрад Пілсудскага пойдзе той самай папярэдняй дарогай, але калі і трохі зьверне ў бок, то пэўне-ж не на карысьць нашую. Пойдзе той самай папярэдняй дарогай дзеля таго, што фактычна той самы чалавек, як у вадным, так другім урадзе стаіць на чале. Комэндант стаіць на чале цяперашняга ўраду і фактычна кіраваў папярэднім урадам. Але ў гэтым новым урадзе маем яшчэ іншы дзіўны дабор людзёў. Тут ёсьць з аднаго боку міністрамі Мэйштовіч, Незабытоўскі—польскія вялікія паны, якія хочуць, каб у Польшчы быў кароль і Марачэўскі, найвялікшы правадыр Польскай Партыі Соцыялістычнай. Новыя міністры манархістыя будуць старацца пайсьці па новай дарозе, па дарозе ўзмацаваньня ўраду, гэта значыцца, каб урад кіраваў самастойна і бязь ніякой адказнасьці, каб ніхто ня мог зьмяніць гэтага ўраду, каб уся ўлада належыла толькі да яго. Каб урад фактычна пайшоў па гэтай лініі, дык тады ўжо запануюць зусім паны і капіталістыя і ўраднікі. Цяперашняе панаваньне іх, панаваньне за ўвесь час незалежнасьці Польшчы будзе толькі пачаткам яшчэ горшага панаваньня капіталістых і паноў. Узмацаваньне гэтага панаваньня адбілася-б наўперад на беларускім русе і на беларускім сялянстве. Уваход у міністры сябра Польскай Партыі Соцыялістычнай можа толькі кампрамітаваць да шчэнту гэтую партыю, бо Марачэўскі, як маёр разам зь міністрам Складоўскім, як генэралам, будуць стаяць перад комэндантам на „бачнасьць", а польскія паны Незабытоўскі, Станевіч і манархісты Мэйштовіч будуць рабіць сваю палітыку на шкоду ўсяго сялянства, на шкоду працуючых масоў. Калі-б мін. Марачэўскі не хацеў на'т ісьці па лініі ўсяго капіталістычнага ўраду, дык яго адносіны да беларускага пытаньня і беларускага сялянства нічога пацешнага нам не варожаць. Уся партыя ППС як і іншыя ўсе польскія партыі адносяцца воража да беларускага пытаньня.

Дык бачым, што палітыка новага ўраду павінна ісьці і ідзе па лініі абароны інтарэсаў польскіх паноў і капіталістых проці інтэрэсаў беларускага народу; з гэтай палітыкі і вынікаюць нашыя нэгатыўныя да яго адносіны. Калі скажам, што згодна із статыстыкай лічбы польскіх урадаў, гэты ўрад недаўгавечны, бо ўсе ўрады борзда мяняліся, дык ці гэтае нашае нэгатыўнае становішча зьменіцца? Адказ на гэта павінен быць ужо ясны. Ужо некалькі год, колькі і як не зьмяняліся польскія ўрады, а ад гэтага нашае палажэньне пад Польшчай не зьмянілася. Ясна таксама, што ніякая перамена польскага ўраду не прынясе радасьці ў хату беларускага селяніна.

*—дзк.*

## Наш пагляд і дамаганьне.

У „Kur. Wileńskim" з 13 кастрычніка надрукавана перадавіца п. Бора пад назовам „Na tle akcji Hramady", а за два дні зьявілася ў „Kur. Wil." другая перадавіца таго-ж аўтара п. н. „Aktualne zadanie". У вабедзьвых стацьях заклікаецца польскі ўрад да барацьбы з „Грамадою" і падаецца праграма гэтае барацьбы. Праграма п. Бора на гэтулькі не дэмократычная, што „Kur. Wil." лічыў магчымым надрукаваць другую стацьцю ягонаю толькі ў „вольнай трыбуне".

Дзеля таго што мы зьяўляемся праціўнікамі „Грамады,', лічым сваёй павіннасьцяй узяць у гэтай справе сабе слова.

Абедзьве стацьці надрукаваныя перадавіцамі і калі зьвернем увагу, што Палякі з „Kur. Wil." стаяць вельмі блізка да актыўнейшай часьці польскага ўраду, каторая ўмее рабіць неспадзеўкі, дык стане ясна, што перад намі да некаторай меры праграма ўрадовая. Пры гэтым, ведамая рэч, што ўсё тое добрае, чаго дамагаецца „Kur. Wil.", не канечне мае праводзіцца польскім урадам, а, як пазнаем з дазнаньня, яно пэўне праводзіцца й ня будзе. Затое благія рады „Kur. Wil." могуць праводзіцца польскім урадам яшчэ ў разьмеры павялічаным. Дык асабліва важна разгледзіць тое, што *можа* стацца, і выказаць на яго свой пагляд.

Пазнаёмім нашых чытароў з тым, чаго дамагаецца „Kur. Wil.". У першай стацьці аўтар бачыць прычыну зла паміж іншым у „толераваню палітычнай дэмагогіі паслоў і плачаных агітатараў" Тут-жа прыводзіцца прыклад таго „добрага", што зроблена ў радавай Беларусі. Тамака „Расея здушыла спосабам найбезуважнейшым усялякія спробы стварэньня якіх-колечы беларускіх палітычных партыяў і вядзеньня самастойнай акцыі палітычнай, але дала за гэта шырокія магчымасьці працы культурнай, заклала Беларускі унівэрсытэт..." і г. п.

Яшчэ ясьнейшаю праграму барацьбы польскага ўраду знаходзім у другой стацьці п. Бора з 16.-X. Гэтак ён дамагаецца:

а) „забарону на Усходніх Землях рабіць якія-колечы агітацыйна-палітычныя вечы, а асабліва вечы эндэцкія й Грамады.

б) „зачыніць бяз права новага адчыненьня органы прэсы прапаганды эндэцкай і прапаганды Грамады ды N. P. Ch.

с) „Зьліквідаваць усе існуючыя арганізацыі Грамады і Незалежнай Партыі Хлопскай".

Іншыя з дамаганьняў ад'емнага характару меней важныя, дзеля гэтага іх тут не перадруковуем.

Вылічыўжы на першым месцу, што трэба спыніць, зьліквідаваць і г. пад., аўтар толькі просьле гэтага кажа, што трэба даць. Да гэтых дамаганьняў дадатняга характару адносяцца беларускія школы пачатковыя й сярэднія, дапушчэньне беларускай інтэлігенцыі ў урады і некат. іншыя.

З гэтага бачым: 1) п. Бор ставіць на першым пляне адміністрацыйны забарон і ўціск, на другім пляне тое, што польскі ўрад павінен даць Беларусам. Значыцца тутака маем сталыпінскае: спачатку „супакоеньне", а потым „рэформы". Але хто можа паручыцца, што пасьля першага ад'емнага руйнуючага акту настане другі творскі й свабодны? Каб ня скончылася ўсё гэтым першым. Дзеля гэтага мы дамагаемся безадкладнага ўжыцьцёўленьня таго, што п. Бор адкладае на потым.

А калі-б гэтае другое сталася першым, дык усялякая патрэба барацьбы польскага ўраду з „Грамадой" сама-сабой адпадае, бо зь ёю тады лёгка справяцца іншыя беларускія партыі. Дагэтуль яны справіцца не маглі, бо ўся польская палітыка пхне людзёў у „Грамаду", асабіва людзёў ня вырабленых палітычна. Пры гэтым адцемлюем Беларусам, што ўсякая перамога Палякоў над хоць-бы якой беларускай арганізацыяй, а значыцца і над такой, як „Грамада", ёсьць *перамогаю польскай над Беларусамі* і цешыцца з гэтага зусім ня маем патрэбы. „Граму" ў інтэрэсах беларускай справы трэба перамагчы, але павінны яе перамагчы Беларусы, але не Палякі.

Адначасна трэба адцеміць, што ўспомненыя стацьці маюць чыста фашыстаўскае дамаганьне—спыніць усялякаю палітычнаю работу, калі яна толькі не ўрадовая. Мы ня думаем, каб магла разьвівацца культурная й грамадзкая праца там, дзе нямаш жаднае свабоды палітычнай, асабліва гэта адносіцца да т. зв. народных меншасьцяў. П. Бор як на прыклад паказуе на бальшавікоў, дзе здушана ўсялякая палітычныя праца беларуская, але дадзена магчымасьць працы культурнай. Але прыклад бальшавікоў гэта — благі прыклад. Палажэньне беларускага народу пад радамі Беларусаў здаволіць ня можа, хоць там ёсьць ня толькі значная магчымасьць працы культурнай, але й некатарае магчымасьць працы палітычнай.

З другога боку, Польшча магла-б браць тады прыклад зь італьянскага фашызму, калі-б яна была ў палажэньню Італіі.

*Максім Прынскі.*

**Прысылайце грошы на падпіску.**

# Адказ грамадаўскай рэдакцыі.

*„Народная Справа“* № 22 у зацемцы „Маўклівае прызнаньне“ svініць Сялянскі Саюз ў тым, што ён сваю праграму зрабіў ня шчыра, а толькі дзеля таго, каб конкураваць зь яшчэ лявейшай праграмай „Грамады“. Гэты дзівосны вывад „Нар. Справа“ зрабіла з таго, што гэтак п. Смрэчынскі надрукаваў у „Kurjer'ы Wileński'м“. „Нар. Справа“ піша, што яна чакала тры тыдні, пакуль-бы мы гэтаму запярэчым, але мы не запярэчылі, дык значыцца гэта праўда. Прызнаемся, што магла-б „Нар. Справа“ чакаць цэлы год і мы ўсё роўна не запярэчылі-б. А не запярэчылі-б ня толькі дзеля таго, што ня маем месца ў газэце на пярэчаньне ўсяму, што хтось нейдзе напіша (дзеля гэтага часта не адказуем і на несправядлівыя нападкі на нас „Н. Справы“), але галоўна дзеля таго, што „Грамаду“ ня лічым і ніколі ня лічылі арганізацыяй лявейшай за Беларускі Сялянскі Саюз. „Грамада“ ня толькі не лявейшая, але значне правейшая за нас. Гэтая правіня асабліва выяўляецца ў дзейнасьці „Грамады“. Ці-ж не на правіню паказуе гэтая надзвычайная лёяльнасьць да Польшчы і сяброўства з NPCh (незалежная партыя хлопская на чале з Ваяводзкім, былым шэфам польскай дэфэнзывы ў Менску) і прыязьнь да Масквы і то да цяперашняй Польшчы і цяперашняй Масквы. Каб „Грамада“ была пад бальшавікамі, дык яна там была-б урадовай партыяй. Дзеячы „Грамады“, уцякаючы ад польскага перасьледаваньня, знаходзяць сабе гасьціннае прыймо ў Менску. Але дзеячом сялянскім няма куды ўцячы; у Менску, падобна як у Польшчы, іх засуджуюць па 4—6 год катаргі, як гэта было сёлета вясной зь сябрамі слуцкай арганізацыі сялянскай (Мяцельскі, Макарэня і інш.). Розьніца толькі тая, што ў Заходняй Беларусі перасьледуе нас польская дэфэнзыва і г. п., а ў Радавай Беларусі маскоўскае ГПУ і інш. Лягчэйшыя варункі працы ў „Грамадзе“ прыцягнулі да яе не аднаго скурніка або й проста маскоўскага чарнасоценца, каторыя зь беларускім рухам ня маюць нічагусенькі супольнага.

Дык калі-б Беларускі Сялянскі Саюз тарнаваўся да правейшай за яго „Грамады“, ён мог-бы толькі папраўвець, але не палявець.

Нам прыкра перад нашымі чытарамі, што мы ў двух № занялі гэтулькі месца, каб адказаць на пустыя закіды грамадаўскай рэдакцыі. Уся яе няшчырасьць выясьняецца яшчэ вось гэтым. „Нар. Справа“ віціць нас у тым, што мы за тры тыдні не адказалі на зроблены нам закід польскай газэты у няшчырасьці, ня гледзячы на тое, што гэнага закіду нашыя чытары ня чулі і зьбіваць яго перад імі значыла-б біцца ў адчыненыя дзьверы. Але ў № 27 з 31 жніўня „Сялянскай Нівы“ ў перадавіцы „Беларуская эміграцыя ў СРСР“ мы зрабілі „Грамадзе“ цяжкі закід, пацьверджаны вялікай лічбай фактаў. Закід гэны датычыў таго нячуванага зьявішча, што, дзякуючы агітацыі грамадаўскага кірунку, на ўсход у СРСР уцяклі дзесяткі тысячаў актыўнейшых Беларусаў і „Грамада“ нічагусенькі не зрабіла, каб яны тамака не бадзяліся, не мадзелі і галадалі па Сыбіры, Туркестане й розных Саратавах. Ад закіду зробленага намі „Грамадзе“ прайшло ўжо ня тры, а цэлых 6 тыдняў і „Грамада“ ў сваім воргане і нідзе нічагусенькі на гэта не адказала. Вось тут, дык запраўды-ж маўклівае прызнаньне!

*Д. Г.*

# ПРАМОВА

## пасла кс. А. Станкевіча ў Сойме 24.IX.1926.

(Глядзі „Сял. Ніву“ № 33).

### Замест войска — народная міліцыя.

Хацелася-б сказаць некалькі слоў аб войску.

Наўперад, мне здаецца, што ў часе, калі гаспадарства перажывае глыбокі крызыс, калі насяленьне стогне пад цяжарам падаткаў, калі фармальна лупяць з яго апошні кажух, думаць аб падбаўцы пэнсыяў вайсковым зусім немагчыма. Многа можна было-б зрабіць ашчаднасьцяў на войску, не падвышаючы пэнсыі, зьмяняючы цэлаю сыстэму вайсковасьці, заводзячы міліцыю народную замест пастаяннай арміі.

### Круці, але не перакручывай.

Аб падатках я ўжо ўспамінаў, што насяленьне імі зусім замучана, а Урад прыходзе да Сойму прапануючы прыняць гэты перарасход і гэтак сама цэлы провізорыум бюджету, які так-жа будзе мець перарасход, як гэта выказалі і мае прадмоўцы. Бо сьмешна было-б апіраць эканаміцкія пляны польскага гаспадарства на ангельскім страйку. Апрача страйку ўрад свае надзеі пакрыцьця перэрасходаў і агулам выдаткаў апірае так-жа на далейшым закручваньні падаткавай шрубы. Я з цэлай станоўкасьцяй сьцьвярджаю, што далейшае закручаваньне нічога не паможа! „Крути, но не перекручивай“ кажа расейская прыслоўе.

### Ня штыхом прывучаць да ляяльнасьці, але справядлівасьцяй.

Занадта ўжо я разгаварыўся, бо, як я ўжо казаў, гэта ня мае ніякага значэньня.

Вы сьмяецеся! Я так-жа сьмяюся з гэтага; аднак, пры аказыі, хачу закрануць яшчэ адну рэч. Гэта справа лёяльнасьці. Сягодня бадай кожны Паляк кажа Беларусу перш-на-перш: „але-ж, паночкі, вы-ж усе бальшавікі, усе вы не лёяльныя, усе вы ворагі польскай дзяржаўнасьці! Як з вамі гаварыць, што вам можна даць!?“ Трудна сказаць, хто ёсьць лёяльны, а хто не! Польская пракуратура дужа добра працуе ў гэтым кірунку і вынікі гэтае працы мы адчуваем на собскай скуры.

Адно толькі мушу адзначыць у справе лёяльнасьці, што ў вашых руках ініцыятыва ў гэтай справе, у вашых руках паліцыя, урады, фінансы, вы прызваныя да таго, каб ня штыхом нармаваць суседзкія адносіны, але на аснове братняга сужыцьця народаў. Вы дагэтуль сыстэматычна не зварочуеце ўвагі на гэта!

Думаю, што вынікі сваей такой палітыкі вы самі будзеце зьбіраць.

### Ці-ж згінем!? — Не.

Словам, уся палітыка польскіх урадаў і ў большасьці грамадзянства польскаьа, ськівавана ў бок поўнага зьнішчэньня Народу Беларускага ў межах Р-тай Польскай. Ці-ж згінем? На вялікае нездаволеньне паноў, найболей з правіцы, мушу з цэлай вераю сказаць, што не! Быць можа гэта было-б, каб мы мелі няшчасьце быць толькі пад урадамі Польшчы, але-ж мы не зьмяшчаемся ў межах Р-тай Польскай. Мы знаходзімся і вонках Р-тай і там на шчасьце ў пэўнай меры, знаходзімся ў лепшых варунках, даючых нам пэўныя надзеі на будучыню. (Голас: Дык туды і йдзіце). (Голас іншы: асабліва ў лепшым палажэньні апынуліся Беларусы-каталікі). (Голас: Чаго ксёндз тут сядзіць, калі там так добра?) Я на сваей зямлі а туды можна папрасіць каго іншага. (Голас: І гэта гавора каталіцкі ксёндз?). На тое я і ксёндз, каб называць рэчы па іменьні. (Голас: Ды ксяндзу бальшавікі так падабаюцца, што ксёндз іх гэтак хвале?). Яшчэ я аб гэтым не гаварыў. Скора перайду да гэтых бальшавікоў.

### У Радавай Беларусі жыве беларуская культура.

Ці-ж гэта мая віна, што бальшавікі ёсьць на сьвеце? Ці-ж мая віна, што апэтыт Грабскага не захапіў усіх Беларусаў, але пакінуў добрых дзьве трэці па той бок Рыскае граніцы? Думаю, што не! Тымчасам мушу сьцьвердзіць, што хаця, мо' на вялікае зьдзіўленьне большасьці вас, у многім не пахваляю радавае палітыкі, аднашуся да яе крытычна, аднак мушу прызнаць, з некаторымі засьцярогамі, што на культурнай народнай беларускай ніве зроблены там вялікі поступ. (Розныя галасы). Гавару гэта, каб вас тут панове ацьверазіць. (Голас: Ксёндз-бы напэўна ацьверазеў, каб там быў!). Быць можа, але факт застаецца фактам, што жыцьцё беларускага народу з мейсца зрушана, што школы беларускія у Радавай Беларусі лічацца на тысячы. Магу паном паказаць цэлыя кучы радавых беларускіх выданьняў. Можаце панове туды самі зьезьдзіць і паглядзець, або спытайце тых сяброў, каторыя езьдзілі. Наагул я дзіўлюся, што вы ня хочаце чорнага назваць чорным, а белага — белым. (Голас: Там замест Беларусаў гадуюцца толькі Скрыпы). Калега Скрыпа ёсьць Украінцам і я аб ім нічога не магу сказаць.

Наканец я магу згадзіцца з вамі, магу прызнаць ваш погляд правільным, але пытаю, што з гэтага выйдзе? Ці-ж з гэтага выходзе, што тут нам нічога не належыцца, і надалей маем быць пазбаўлены собскай школы, асьветы, зямлю маем аддаваць чужнікам асаднікам і маем быць матар'ялам для імпэр'ялістычных і нацыяналістычных імкненьняў польскіх? Зусім не! (Галасы абурэньня). Мусіце згадзіцца за мной панове! Гэты факт, аб якім я гавару, паказуе, што не загінем хоць палітыка вашая вядзе да гэтага.

### Жывём і ў Лацьвіі.

Есьць нас так-жа і ў Лацьвіі. Хоць вашая палітыка і туды сягае, называючы Беларусаў-каталікоў Палякамі і працуе над спалянізаваньнем іх, але-ж і там яна нічога не дасягае. Лацьвійскі ўрад у некаторай меры шчырэйшы за вас і часткава йдзе на спатканьне нашым народным інтарэсам. Маем там рад школаў, якія ўзрастаюць па меры развою нашае культуры народнае. Гэта-ж ёсьць так-жа аргумэнт, што мы не загінем, паміма вашай палітыкі, сьціраванай у гэтым кірунку.

### Літва прыязная нам.

Возьмем урэшце Літву, дзе няма нашае тэрыторыі, аднак і там заўсёды знаходзім братняе спачуцьцё для нашых патрэбаў, бо эміграцыя нашая будучы ў Коўні працуе дужа добра на ніве беларускай культуры, маючы субсыдыі ад літоўскага ўраду. Беларускі Народ заўсёды будзе Ліцьвіном удзячны за гэта, і апіраючыся на гэтым, сьмялей пойдзе да сваей будучыні, паміма вашых варожых адносінаў на'т у тых правох, якіх вы нам адмовіць ня можаце, ня гвалцячы свае канстытуцыі.

### Надзея ў народзе.

Маю яшчэ адзін довад, што мы ня зьгінем: гэта ёсьць настрой нашага насяленьня! Вы яго добра ведаеце! Калі насьледкі гэтага настрою для вас будуць не карысныя, то паўтараю, адказнасьць за гэта панясіцё ўсе вы разам з усімі вашымі ўрадамі, ня вылучаючы і цяперашняга ўраду п. Бартля! (Голас: Ен-жа вам памагае!) Памагае, як кашаль у хваробе.

Сядня настрой як сярод праваслаўнага, так і каталіцкага беларускага насяленьня такі, што нашая сялянства кожную, шчыра беларускую партыю энтузыястычна вітае, а гэта настрой, які вашыя ўплывы ў нас спаралiжаваў, які вынікі вашых імкненьняў, зьвёў на нішто.

Ужо канчаю. (пас. Солтык: Трэці раз ужо ксёндз канчае). (Другі голас: Згаджаемся на канец). Гэтым разам скончу напэўна. Дужа шкадую, што адраджэньне Беларускага Народу ў межах Р-тай, замест ісьці дарогай позытыўнай, творчай, дзякуючы палітыцы Польшчы, пашло на дарогу нэгацыі, а праўду кажучы на дарогу революцыі. Праўду кажучы, ніколі вялікае вагі рэволюцыі не прыдаваю і ў выніку рэволюцыі на далейшую мэту ня верыў і ня веру. Але дзеля таго, што рэволюцыя дае часам аздараўленьне грамадзянскаму арганізму і нейкія пэрспэктывы на будучыню, дык хоць гэтым пацяшаю сябе, і ў гэтым бачу частку ратунку для свайго народу. Бо, панове, ўсе нашыя іншыя надзеі вы даўно ўжо дзіка павыдзіралі з нас!

Рэч ясная, што галасаваць будзем проці правізорыі. (Воплескі на лавах нац. меншасьцяў).

# Да прыватных беларускіх школаў.

На сёлетні школьны год Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры падаў заявы на прыватныя беларускія школы ў гэтакіх вёсках:

1. в. Рудаўка, Слонімскага пав.,
2. в. Малы-Угрынь, Слон. пав.,
3. в. Асташын, Наваградзкага пав.,
4. в. Любанічы, „ „
5. в. Ачулевічы, „ „
6. в. Лукі, Стаўпецкага пав.,
7. в. Смолічы, Несьвежскага пав.,
8. в. Лявонавічы, „ „
9. в. Цякалоўшчына, „ „
10. в. Анісімовічы, Баранавіцкага пав.,
11. в. Барадзенічы, Браслаўскага пав.,
12. в. Цяцеркі, „ „
13. в. Шаўляны, „ „
14. в. Дамуці, „ „
15. в. Сярэдняе Сяло, Валожынскага пав.,
16. в. Ядзейкі, Маладэчанскага пав.,
17. в. Далкі, Косаўскага пав.,
18. в. Зарэча, Пружанскага пав.

Ніводная школа дагэтуль не адчынена, бо няма адказу на заявы, або школьная ўлада не зацьвердзіла вучыцеля.

У сувязі з гэтым Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвярнуўся 6.X. сёл. г. да Міністра Асьветы з гэтакай просьбай:

a) зрабіць загад, каб неадкладна былі дадзены дазваленьні на школы, на якія пададзены заявы і былі зацьверджаны вучыцялі, і каб

b) заявы на новыя школы былі борзда і прыхільна разгледжаны;

c) каб былі скасаваны аплаты штэмплёвыя ад заяваў на школы, на якія разам з іншымі фармальнасьцямі йдзе 20 зал. 50 гр.;

d) каб былі ўпрошчаны фармальнасьці пры складаньні заяваў на школы;

e) каб вучыцялём, якія паакончавалі сэмінарыі, або здалі экзамен на вучыцеля былі прызнаны кваліфікацыі вучыцялёў, хаця прыватных беларускіх школаў.

Такія вучыцялі ў часе летніх парэрваў у школьнай працы маглі-б паглыбляць веду польскай мовы а таксама беларускай.

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаўшы дай яе суседу.

# Трэба выдаваць беларускаю літаратурна-навуковаю часопісь.

Часьценька чуць прыходзіцца, што сяляне што раз болей цікавяцца родным друкаваным словам: падпіска на беларускія газэты павялічаецца, сваякоў ці суседзяў, што прыяжджаюць зь места дапытаваюць сяляне пра беларускія кніжкі й газэты: „Ці ня прывёз?—дай прачытаць“. Асабліва моладзь горнецца за беларускім друкаваным словам. На бяду, нашыя пісьменьнікі так бедныя, што ня маюць за што самі падаць у друк сваіх твораў, а багатых паміж Беларусоў наагул няма, дык няма каму кошт класьці на выдавецтвы твораў беларускіх пісьменьнікаў. Прыходзіцца зборнымі грашмі пусьціць у друк патрэбныя кніжкі ці часопісі. Але—трэба-ж зрабіць збор грошы! Трэба наладзіць гэты збор грошы як найскарэй! І як? Вось-жа, думаю, найлягчэй во як. Насамперш, павінна нейкая беларуская ўстанова ўзяцца быць выдаўцом добра абдуманай часопісі тыднёвай, ілюстраванай,—для прыгожай літаратуры і навуковых працаў (для палітыкі ёсьць ужо часопісі і навет добрыя). Тады павінна запрасіць за рэдактара галоўнага і за рэдактароў спэцыяльных адзьдзелаў людзей здольных да такой працы, але — канечне прымірлівага характару.

Рэдакцыя павінна абвесьціць—з каго складаецца сама і з чаго складацца будзе часопісь. А да прыхільнікаў зьвярнуцца мусіць—за памогай на выдавецтва. Памога найлепшая і найлягчэйшая была-б у такой форме. Кожны прыхільнік няхай дасьць што месяц, прымерна, па 10 златовак; за гэта ён дастане, сказаць для прымеру, 20 штук часопісі на месяц; з гэтых 20 штук возьме сабе 5 штук, а 15 застанецца ў рэдакцыі на продаж; з продажы рэдакцыя дастане 10%.

Усякі, хто пачуваецца да абавязку памагчы пашырыць друк беларускі, а галоўным чынам—памагчы пусьціць культуру ў народ і пісьменьнікам памагчы прагаварыць да чытачоў,—зь вялікай ахвотай (спадзявацца трэба) адазьвецца на голас рэдакцыі і што месяц дасьць складчыну ў рэдакцыю на друк часопісі. А калі рэдакцыя запэўніць, што складчына задарма ня пойдзе, а на мену за некулькі нумароў часопісі,—тым большай лічбы ахвотнікаў з дапамогай знайдзецца.

Падаючы гэтую думку, я, ведама, сам адразу залічаю сябе да складчыкаў на друк часопісі. Магу даваць што месяц па 20 залатовак. Каб трыццаць складчыкаў—дык ужо было-б досыць грошы на добрую часопісь!

Дык калі ласка адазьвецеся ўсе прыхільнікі на паданы проект. Але адазвецеся скора: бо незадаўга Новы Год, а ад Новага Году часопісь павінна выйсьці ў людзі.

9.X.1926. *Адвардзь Будзька.*

## Дзесятыя ўгодкі „Krynicy“.

Сёлета 24 кастрычніка ў Вільні Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя сьвяткуе дзесятыя ўгодкі выхаду ў сьвет свайго воргану—газэты „Krynica“. Першы № „Krynicy“ вышаў 8 кастрычніка 1917 году ў Пецярбурзе. Адсюль „Krynica“ ў тым-жа 1917 г. была перанесена ў Менск. А з 1919 г. выходзіць у Вільні. У 1925 году „Krynica“ ў Вільні пастановаю польскага суду была зачынена і замест яе пачала выходзіць з крыху зьмененым назовам „Biełaruskaja Krynica“.

Заклалі „Krynicu“ й вядуць яе дагэтуль сьвядомыя ксяндзы Беларусы, каторыя блізу што вылучна вышлі з гушчы беларускага сялянства. Дык „Krynica“ дагэтуль азначаецца беларускім патрыётызмам і шчырым дэмакратызмам. З першага свайго нумару „Krynica“ зьвярнула на сябе ўвагу Беларусаў, асабліва-ж Беларусаў-каталікоў. Адразу відаць было, што справа лучыла ў адпаведныя й пэўныя беларускія рукі, што просьле з усіх бакоў няўдалага „Biełarusa“ было асабліва вялікай уцехаю.

За час свайго быцьця „Krynica“ зрабіла вялізарнаю работу, усьведамляючы, а да некаторай меры й арганізуючы Беларусоў-каталікоў. Пры „Krynicy“ выдаваліся сяды-тады беларускія кніжкі лацінцаю. З кніжак гэтых асаблівую ўвагу зварочуе сваім уважным апрацаваньнем „Hołas Dušy“, кніжка да набожнасьці Беларусоў-каталікоў. Жадаем „Krynicy“ далейшай упорнай працы над адраджэньнем беларускага народу, асабліва яго каталіцкай часьці.

P. S. У дзень сьвяткаваньня 10-х угодкаў „Krynicy“ г. зн. 24 кастрычніка будзе так-жа нарада ейных супрацаўнікоў. *П. В.*

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Із Заходняе Беларусі.

### Лісты.

#### Да Рэдакцыі газэты „Сялянская Ніва“.

(Ліст жыхараў Ражанскае вол., Косаўскага пав.).

Ня гледзячы на тое, што кожны рок зацьвярджаецца бюджэт воласьці, ухвалены і прадугледжаны валасной радай, аднак у Ражанскай воласьці Косаўскага павету стварыўся вялікі недахоп грошаў за 1925 год. Дзеля таго, каб выйсьці з гэтага палажэньня й пакрыць гэты недалік валасная рада Ражанскай воласьці пастанавіла 1926 г. падатак выраўняючы і ўжо разаслалі загады плаціць гэты падатак.

Дзеля таго, што былы войт воласьці Ражанскай, Сьцяпан Бусяцкі, растраціў самадумам 700 залатовак зь лішнім і хаця ён пад суд адданы, але мы пэўны, што да дня суду ён падасьць квіты аб заплаце растрачаных грошаў і апраўдаецца, бо на пасадзе войта цяпер яго родны брат—Уладзімер Бусяцкі.

А дзеля гэтага просім і будзем дамагацца контролю, дзе дзеўся гэты вялікі недалік, якая сума гэтага недаліку і г. п.

Апроч таго дамагаемся зьмены Ражанскай валасной рады, у каторай два сябры (Ясюкевіч і Колячевіч) навет зусім няпісьменыя. Цэлаю валасною радаю кіруюць Жыды—Янкель Гінзбург, а яму памагае Абрам Данскі. Хаця гэты Данскі й ня радны, а ён апанаваў усёю воласьцяй, возячы паноў войтаў, бо дзяржыць стойку. Рэшта радных сядзяць „для мэбелі“.

*Жыхары Ражанскае воласьці.*

(Далей ідзе шмат подпісаў).

#### Добрага пісара аддалілі, а назначаюць злодзееў.

(Любчанская вол. Пінскага пав.).

Быў у нашай Любешоўскай воласьці пісар Б. Б., чалавек сталы, сямейны, служыў год 6, сам Беларус. Вельмя быў ён добры, справядлівы, працаваў надта шчыра, паставіў нам воласьць і рабіў людзём вельмя добра; ува ўсякаю пару, калі-б к яму ня прыйшоў, ці ў гадз. 6 нараніцы, ці ў 12 уночы, зробіць, што трэба, не адмовіць і нічога ня браў. Але ён ня любіў паноў і хабарнікаў, за гэта яго паны ня любілі й пастараліся яго прагнаць. А затое прагналі, што не даваў хабароў. Гэта было вось як. У нашай воласьці быў валасны конь. Павятовы сойм загадаў прадаць гэнага каня і аддаць стойку Жыдом. Тады інспэктар Нядзельскі сказаў пісару Б., каб ён купіў гэнага каня. Пісар адказаў, што ён ня мае гэтулькі грошы, бо гэны конь будзе прадавацца з таргоў, то будуць даваць вялікія грошы. Тады Нядзельскі на яго зазлаваўся й сказаў „trzymaj się pan“. Прайшло крыху часу, ізноў інспэктар Нядзельскі прыехаў і папрасіў ужо 50 даляраў „na krówkę“, але пісар іх ня даў, бо ня меў. Пасьля гэтага Нядзельскі напісаў рапарт такому-ж пану, як і сам, старасту Балдаку, што пісар Б. нічога ня робіць, а толькі працуюць яго памочнікі, і бярэ хабары. З гэтае прычыны пісара Б. звольнілі. На яго месца прыслалі зь Вітчаўкі Фалінскага, каторы там захапіў 1200 зал. валасных грошаў, а, як посьле агледзіліся, і тут захапіў 600 зал. Гэта рабілася так, каб тут узяў, а там аддаў, бо яго родная сястра свая з бугальтэрам сойміку. Посьле гэтага па рэкомэндацыі пана раднага сойміку Корсака прыслалі нам яшчэ лепшага хабарніка, Рудкевіча, каторы бяз 6 даляраў і гаварыць не хацеў; былі на яго жалабы, дык яго перавялі ў лепшаю воласьць—Марачанскаю. Вось што ў нас дзеецца!

*Янка Лебяда.*

## Беларусы ў Лацьвіі.

### Зьезд.

2-гі зьезд дэлегатаў „Т-ва Беларусаў-выбаршчыкаў у Лацьвіі“ быў у нядзелю 26-га верасьня ў Дзьвінску. Зьезд прыняў справаздачу старога праўленьня і рэзолюцыі ў справах нацыянальна-політычных і соцыяльных.

### 5 угодкі працы.

Сьвяткаваньне 5-х угодкаў беларускай нацыянальна-адраджэнскай працы ў Лацьвіі было ў Дзьвінску ў нядзелю 26-га верасьня. На сьвяткаваньню прамаўлялі прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў у Лацьвіі.

Сьвята скончылася вечарынай-спэктаклем з канцэртным адзьдзелам. Аб беларускай працы ў Лацьвіі за апошнія пяць год надрукуем у вадным з бліжшых нумароў нашае газэты.

## „ОЙ ЧАМУ ЗВАНЫ?...“

Ой, чаму званы вы медныя
Так маркотна званіцё?
Чаму сэрцу майму беднаму
Супакой не даіцё?...
    Я сумую, я гарую
    У чужынскай старане,
    Як ваш сумны звон пачую
    Цяжка робіцца ўраз мне.
Я пакінуў ў мілым краю
Родных, мілых, дарагіх,
Аб іх часта ўспамінаю
У думках шчырых я сваіх.
    Як пачую звон жалосны
    Ваш, о медныя званы!
    Ураз ўскрасаю я апошні
    Звон радзімай стараны.
Жыва, радасна гамоняць
Нашы родныя званы:
Быццам голасам гавораць
І пяюць людзкім яны.
    Дадаюць яны моц, сілу,
    Радасьць добрым людцам усім;
    Пацяшаюць край наш мілы
    Звонам радасным сваім.
Чуў я звон у краі родным!
Чуў вясёлы я той звон!...
Мне ўскрасаў ён дух народны,
Беларускі родны ён!
    А цяпер... званы чужыя
    Усьцяж так жаласна звaняць...
    Пэўне хочуць мне радныя
    Гукі звонаў ўспамінаць.
Сумна, цяжка праплываюць
Дні за днямі ў чужыне...
У мяне-ж думкі ня шчазаюць
Усё аб роднай старане.
    Гэй, ударце моцна, званы,
    Каб аж рэха праняслось!
    Да бацькоў і брацьцяў мілых
    У край родны данялось!
Каб ляцела ў край радзімы
Да вясковых родных хат,
Каб усе знаді, як нудзіцца
У чужыне іх родны брат.
    Ой, званы-ж вы, званы медны!
    Кіньце сумны голас свой!
    Дайце сэрцу майму беднаму
    Адпачынак, супакой!

*Сяргей Пяюн.*

26.IX. 1926 г.

### Беларусы на латгальскай выстаўцы.

24—27 верасьня была ў Дзьвінску 5 латгальская краёвая выстаўка. З усіх нацыянальных меншасьцяў Латгаліі толькі Беларусы арганізавалі нацыянальны кіоск. Дзьвінская гімназія беларуская паставіла на выстаўцы хараша прыбраны кіоск, у якім былі выстаўлены мастацкія працы вучняў гімназіі: малюнкі Міковіча, М. Калініна, М. Трубецкага, вышываньне, сталярныя, сьлясарныя й такарныя работы.

За выстаўленыя рэчы Дзьвінская Беларуская Гімназія дастала 2 дыплёмы: адзін гонаравы, а другі—1-ае ступені.

# НАВІНЫ.

— **Беларуская лекцыя.** Віленскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры арганізаваў у нядзелю 17 кастрычніка публічнаю лекцыю. Лекцыю на тэму: „Беларускія мусульмане й беларуская літэратура арабскім пісьмом“ прачытаў у залі Беларускай Гімназіі д-р Я. Станкевіч. Слухачоў было шмат, каторыя вельмі цікавіліся лекцыяй. Я. С. змог прачытаці толькі першаю частку лекцыі, г. зн. кароткі начырк гісторыі беларускіх мусульманаў, на рэшта ня стала часу. Аб беларускай літаратуры арабскім пісьмом прачытае на другой лекцыі, што мае быць за тыдзень.

— **Беларускі календар на 1927 г.** Друкуецца й скора выйдзе ў сьвет „Беларускі Народны Календар“ на 1927 год. Календар уважна апрацаваны і будзе мець вельмі багаты й цікаўны зьмест.

— **Новыя кнігі**: 1) Б. Друцкі-Подберэскі: Байкі (па Крылову й іншых). З рысункамі. Сшыток І. Вільня. 1926. 32 балонкі малога фармату. Цана 70 грошаў. 2) А. Гурскі: Наглядны арыт-

